# КРЫВІНКА

ЧЭРВЕНЬ
№9 (217)
2018 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




НАЎПРОСТАЯ ЛІНІЯ

## ЗРОБІМ БЕШАНКОВІЧЫ ПРЫГАЖЭЙШЫМІ

**16-га чэрвеня ў рамках наўпроставай лініі Мікалай Заблоцкі адказаў на некалькі пытанняў, звязаных з праблемамі і перспектывамі нашага раёна.**

1. Сёння дажджлівае надвор'е, і на дарогах па райцэнтру прыходзіцца трапляць у шматлікія лужыны. Напрыклад, насупраць аўтастаянкі каля бальніцы, ці па вуліцы Віцебская шаша каля бешанковіцкага лясніцтва і далей па ўсяму райцэнтру. Пытанне гэта лёгка вырашальнае, хто дапаможа яго вырашыць?

— Згодны. Праблема ёсць Я даю даручэнне начальніку аддзела архітэктуры, будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі Анатолю Журко і дырэктару «Бешанковіцкага камунальніка» Ігару Сліўцу разабрацца ў сітуацыі і прыняць дзейсныя меры.

2. Чатыры гады таму мы ваявалі з жыхарамі вуліцы Ясеніна з-за будаўніцтва моста праз Дзвіну. Людзям знеслі гаражы, парушылі іхні спакойны лад жыцця. А будаўніцтва моста так і не распачалося. Калі плануецца яго распачаць?

-- Па падыходам і па інвестыцыям будаўніцтва моста не плануецца. Ужо сёлета плануецца будаўніцтва Бешанковіцкай ГЭС з тэхнічным пераходам. Згодна іфармацыі, якая паступіла з Віцебскэнерга і Мінэнерга, на будаўніцтва ГЭС ужо вызначаныя падрадчыкі, работы мусяць быць распачаты або напрыканцы лета або напачатку восені.

3. А на вашу думку як грамадзяніна і жыхара Бешанковічаў, ці патрэбна, гэта ГЭС нашаму раёну? У тым плане, што нам затопяць 200 га лесу, мы будзем той гніллю дыхаць, не зразумела, што будзе далей з экалогіяй.

— Як чалавек дзяржаўны, я мушу падпарадкаўвацца тым рашэнням, якія прынімаюцца на ўзроўні дзяржаўных праграм. Думаю, што спецыялісты падрахавалі плюсы і мінусы будаўніцтва. Што гэта будзе потым, калі пабудуюць, пэўна, пакажа час.

4. Ці будзе ў Бешанковічах у найбліжэйшы час працягнута будаўніцтва басейна?

-- Пакуль што Міністэрства эканомікі ў інвестыцыйнай праграме на 2019 год будаўніцтва басейна не плануе. А ў дальнейшым пытанне застаецца адкрытым.

У сувязі з тым, што ў інвестыцыйнай праграме ёсць аб'екты будаўніцтва Бешанковіцкай ГЭС і атамнай станцыі, то-бок, больш важныя аб'екты, пакуль што будаўніцтва басейна ў Бешанковічах у праграму не ўключана. А што будзе далей, я сказаць не магу.

5. Хто і калі будзе аднаўляць пашкоджаныя пры будаўніцтве ходнікі, добраўпарадкоўваць тэрыторыю каля гасцініцы?

-- На апошняй планёрцы старшыня райвыканкама А.Булаўкін даваў даручэнне намесніку па будаўніцтву С.Аўчыннікаву, які курыруе пытанне, і дырэктару «Бешанковіцкага камунальніка» І.Сліўцу, прыняць меры па добраўпарадкаванню, уладкаванню малых формаў, пасадцы дрэваў і г.д.

**Г.Станкевіч**

ЛЕТА-2018

## НУ ШТО, ПАПЛАВАЕМ?

**Сёлета ў вобласці абсталявана 101 месца для адпачынку на вадзе. Летась было абсталявана крыху больш, 114 пляжаў. У Бешанковіцкім раёне і летась, і сёлета 15,5 тысячам жыхароў абсталявана два месцы для адпачынку на вадзе.**

Гэта "Чыстыя сажалкі" - штучныя сажалкі на ўездзе ў г.п. Бешанковічы па вуліцы Витебская шаша і "Паўазер'е " ў населеным пункце Сокарава на Паўазерскім возеры.

У нашых суседзяў шумілінцаў такіх месцаў чатыры, прычым усе яны знаходзяцца на азёрах. У Чашніцкім раёне абсталявана аж восем месцаў для масавага адпачынку - чатыры на азёрах і два на рацэ Вула у межах горада.

Інфармацыя пра месцы масавага адпачынку(пляжы) зацверджаныя рашэннямі мясцовых выканаўчых органаў.

**А.Тутэйшы**

## ****

*Шэрых дзён аднастайных рака*
*ашчасьлівіць усьмешкай*
*белай вішні спачатку,*
*а потым – ігрушыны сукняй,*
*што стаіць сіратліва*
*дзе-небудзь*
*на ціхім узьмежку,*
*белай казкай затопіць*
*увесь белы сьвет*
*і – патухне.*

*Я б памёр пад ігрушынай гэтай,*
*напэўна, даўно ўжо,*
*калі б у месяцовым разьліве*
*сады не буялі,*
*калі б вольныя думкі мае*
*сон падступны стрыножыў,*
*і вясновай душы ўтаймаваў*
*неўтаймоўныя хвалі.*

*Я б даўно ў іншы сьвет адышоў*
*або з'ехаў кудысьці,*
*калі б п'яны дарэшты*
*ў абдымках ня спаў*
*з дзьмухаўцамі,*
*калі б неба сышло на зямлю*
*дзеля нечай карысьці,*
*а ня сыпала зоры штоноч*
*са сваёй курасадні.*

*І пакуль іхні рой*
*мчыць дажджом зь недасяжных*
*сусьветаў,*
*каб зрабіць нам балюча,*
*каб сон адагнаць наш і морак,*
*мы заўжды будзем жыць*
*непаўторнаю музыкай гэтай,*
*як жывуць дзьмухаўцы*
*на самотнай Зямлі снамі зорак.*

***Г.Станкевіч***


***Партал твайго горада: http://beshankovichy.by***


НАВІНЫ ЭКАЛОГІІ

## НІВОДНАГА ВОДГУКУ

**Грамадзкія абмеркаваньні справаздачы аб ацэнцы ўзьдзеяньня на навакольнае асяродзьдзе будаўніцтва Бешанковіцкай ГЭС праходзілі ў трох раёнах вобласьці — Віцебскім, Шумілінскім і Бешанковіцкім. У Віцебскім раёне абмеркаваньне доўжыліся ад 5 траўня да 3 чэрвеня. Арганізатары не атрымалі за месяц аніводнага водгуку ад насельніцтва. Заяваў наконт правядзеньня грамадзкіх сходаў таксама ніхто не падаваў.**

"Ва ўстаноўлены заканадаўствам тэрміны, цягам 10 працоўных дзён ад моманту публікацыі паведамленьня аб грамадзкім абмеркаваньні, заяваў ад грамадзкасьці аб неабходнасьці правядзеньня сходу па абмеркаваньні справаздачы аб АУНА ў Віцебскі райвыканкам не паступала", – гаворыцца ў пратаколе грамадзкіх абмеркаваньняў, які апублікаваны нядаўна на сайце райвыканкаму.

Такім чынам, камісія па падрыхтоўцы і правядзеньні грамадзкіх абмеркаваньняў, якую ўзначальваў намесьнік старшыні Віцебскага райвыканкаму Аляксей Героеў, палічыла, што грамадзкія абмеркаваньні адбыліся.

Паводле пратаколу, "працэдура грамадзкіх абмеркаваньняў была праведзеная згодна з патрабаваньнямі разьдзелу 5 "Палажэньня аб парадку арганізацыі і правядзеньня грамадзкіх абмеркаваньняў праектаў экалагічна значных рашэньняў, справаздач аб ацэнцы ўзьдзеяньня на навакольнае асяродзьдзе…", зацьверджанага пастановай Савету Міністраў ад 14.06.2016 году №458".

Што тычыцца абмеркаваньняў у другіх раёнах, то, па стане на 18 чэрвеня, на сайце Бешанковіцкага райвыканкаму пратакол грамадзкіх абмеркаваньняў быў пакуль не апублікаваны. Але азнаёміцца з матэрыялами справаздачы ў рэжыме анлайн можна было менавіта тут.

Між тым, на сайце прадпрыемства "Віцебскэнэрга" (заказчык будаўніцтва) справаздача так іне з'явілася. хоць менавіта гэтая пляцоўка анансавалася ў паведамленьні аб правядзеньні абмеркаваньняў.

У Шумілінскім раёне грамадзкае абмеркаваньне праекту праходзіла раней – ад 24 красавіка 2018 году. Зводка водгукаў таксама пустая. "Усе пытаньні, заўвагі і прапановы, атрыманыя падчас правядзеньня грамадзкіх абмеркаваньняў лічыць не датычнымі аб'екту абмеркаваньня і не ўключаць у зводку водгукаў, прыкладзеную да пратаколу", – вырашылі сябры камісіі.

Значыцца, заўвагі і прапановы ўсё ж былі, але іх палічылі ня вартымі ўвагі.

Эколагі не рэагуюць

Не адрэагавалі на публікацыю справаздачы аб узьдзеяньні будаўніцтва Бешанковіцкай ГЭС на навакольнае асяродзьдзе і эколягі, хаця аўтары справаздачы вызначылі ўзьдзеяньне будаўніцтва як "ўзьдзеяньне высокай значнасьці".

У выніковай частцы справаздачы гаворыцца, што "ў працэсе будаўніцтва і функцыянаваньня Бешанковіцкай ГЭС магчымы пэўны прэсінг на існыя прыродна-тэрытарыяльныя комплексы".

Гэтак, праз будаўніцтва Бешанковіцкай ГЭС у зону затапленьня патрапіць 223,65 га ляснога фонду. А значыцца, загіне 176,79 га пакрытых лесам зямель, у тым ліку 11,17 га (6,32%) асабліва каштоўных расьлінных згуртаваньняў, гаворыцца ў справаздачы.

Што трэба ведаць пра будаўніцтва Бешанковіцкай ГЭС

Будаўніцтва плянуюць пачаць у 2019-м годзе, скончыць – у 2024-м.

Меркаваны тэрмін эксплёатацыі ГЭС – 75 гадоў.

Меркаваная магутнасьць станцыі - 25-30 мВт. Яна будзе магутнейшая за Полацкую (21,75 МВт), але слабейшая за Віцебскую ГЭС (40 МВт).

Гідравузел плошчай 10,5 га пабудуюць у раёне вёскі Мількавічы, вадасховішча зойме 1 тыс. 696 га.

Паводле інвэстыцыйнага праекту, распрацаванага ў 2016 годзе, прыблізны кошт будаўніцтва – 186 млн. даляраў.

**Зьміцер Міраш**
**"Віцебская вясна"**

НАВІНЫ ЭКАНОМІКІ

# ЗНОЎ СЯРОД АЎТСАЙДАРАЎ

**Апублікаваныя сярэднія заробкі па рэгіёнах за красавік. Бешанковіцкі раён займае пятае месца «ззаду» сярод усіх раёнаў рэспублікі. У красавіку сярэдні заробак у раёне склаў 605,3 рубля. Да сакавіцкага заробку дадалося 18 рублёў і 10 капеек.**

Шаркаўшчына можа уздыхнуць спакойна: у мінулым месяцы яна ўжо не была самай беднай. "Званне» аўтсайдэра па сярэднім заробку ў красавіку наогул сышло з Віцебскай вобласці.

У цэлым жа на фоне зніжэння сярэдняй зарплаты па краіне мінулы месяц у разрэзе раёнаў быў не так ужо дрэнны.

Галоўная тэндэнцыя апошніх месяцаў: «заможныя» раёны багацеюць не так хутка, як раней. А вось у «беднякоў» не назіраецца падзення сярэдніх заробкаў. Выходзіць, за кошт трохі набіраючых «тлушч» нізоў краіну падцягваюць да запаветных «папіццот»

**7 фактаў пра заробкі ў красавіку**

У краіне цяпер няма ні аднаго раёна, дзе сярэдні заробак быў бы менш 500 рублёў. Больш за тое - усяго ў 4 раёнах атрымліваюць менш за 600 рублёў. Дарэчы, яшчэ ў сакавіку такіх было 12. Кожны месяц колькасць «беднякоў» скарачаецца ў 3 разы!

Розніца паміж самым «бедным» (у красавіку гэта Мсціслаўскі раён Магілёўскай вобласці) і самым «багатым» (тут па-ранейшаму Салігорскі раён) склала 2,4 разы.

Больш за ўсё сярэднія зарплаты выраслі ў Мазырскім раёне (плюс 72,3 рубля). Але ў адрозненне ад папярэдняга месяца, няма ніводнага раёна, дзе да палучкі дадалі б больш 100 рублёў.

Падзенне заробкаў зафіксавана ў 5 раёнах. Лідэр са знакам мінус - Астравецкі раён: тут палучкі аселі амаль на 24 рублі. Дарэчы, цікаўны факт: самае вялікае падзенне сярэдняга заробку паказаў Мінск - тут сярэднія заробкі скараціліся амаль на 90 рублёў. Для сталіцы гэта вельмі рэдкі выпадак, калі нелічыць студзень, калі заробкі «асядаюць» па ўсёй Беларусі.

У 13 раёнах сярэднія заробкі выраслі не больш чым на 10 рублёў. Напрыклад, самы невялікі рост паказаў Мядзельскі раён - плюс 2,2 рубля.

Традыцыйна амаль кожны другі раён мае сярэднюю зарплату ад 600 да 700 рублёў.

Больш за сярэднюю па краіне (а гэта 926,8 рубля ў красавіку) атрымліваюць толькі ў 6 раёнах. Два з іх (традыцыйна Салігорскі і Мінскі) маюць больш праславутых 1000 рублёў.

**TUT.BY**

ЛАКАЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

# ВУЛІЦА ЧАРНЯХОЎСКАГА, ДОМ 25

**Жыхары дома па гэтаму адрасу вельмі просяць дапамагчы вырашыць іх праблему. І яна не вельмі складаная: забараніць у іх двары пад вокнамі дома скразны праезд аўтамабіляў.**

Гэты артыкул пішацца з адной-адзінаю мэтай: звярнуць нарэшце ўвагу на праблемы простага чалавека, вырашэнне якіх не патрабуе амаль аніякіх сродкаў, а патрабуе толькі невялікай увагі. Такіх праблемаў ёсць на кожным кроку: залатаць дзірку ў асфальце, спусціць з дарогі лужыну, падрэзаць голле дрэва і таму падобныя.

У жыхароў дома № 25 па вуліцы Чарняхоўскага, а гэта пераважна пенсіянеры, праблема вось якая. Яны хочуць спакойнага жыцця. Яны любяць пасядзець каля свайго пад’езда, пагрэцца на сонейку, пагаманіць. Але атрымаць асалоду ад такога жыцця ў іх аніяк не атрымоўваецца: вакол іхняга дома пастаянна ездзяць аўтамабілі. А яны шумяць і ўздымаюць пыл. А яшчэ могуць абдаць гразюкай з лужыны.

Жыхары звярнуліся па дапамогу да бешанковіцкіх камунальнікаў. На іх просьбу праезд закрылі, паставіўшы з аднаго боку дома будаўнічыя начоўкі, у якіх на будоўлі падаюць раствор. Але акрамя таго, што ў жыхароў ёсць пытанні да эстэтычнага боку вырашанай праблемы, істотна тое, што начоўкі тыя вузкія, іх можна лёгка аб’ехаць на легкавіку.

Жыхарам дома хацелася б, каб замест нягеглых начовак з’явіліся прыгожыя вазоны, а кветкі ў тыя вазоны яны б пасадзілі і самі.

Наша ўлада чамусьці як агню баіцца вырашаць такія капеечныя праблемы, якія закранаюць жыццё 10 ці 20 чалавек. І вельмі любіць вырашаць праблемы, каб зрабіць умомант УСІХ без выключэння беларусаў здаровымі, багатымі і шчаслівымі. Таму нам будуюць басейны, каб мы УСЕ змаглі адчуць клопат аб нас бедалагах і змаглі пайсці разам на масавы заплыў. Таму нам будуюць нятанную Бешанковіцкую ГЭС, каб кожны з нас адчуў гэты амаль бацькоўскі клопат аб энергетычнай бяспецы пра кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Таму нам будуюць атамную станцыю, каб мы ЎСЕ адразу сталі ўмомант шчаслівымі (асабліва былыя чарнобыльцы), атрымаўшы СВОЙ дарагушчы атамны рэактар.

А вось вырашаць элементарныя капеечныя праблемы ўлада не любіць, не хоча і не можа. Або на гэты раз будзе інакш?

**Г.Станкевіч**

НАШЫ СЛАВУТАСЦІ

# МАЯНЭЗ «ХАТНІ» І КАЎБАСА «МІНСКАЯ»

**У Бешанковічах робяць арыгінальны маянэз, рэцэптуру якога ў свой час распрацавала сціплы майстар-повар мясцовага рэстарана «Спадарожнік» Фяцiння Міхеенка. Афіцыйна ён называецца «Хатні», але ў райцэнтры называюць яго «Ксенія Карпаўна», як прывыклі звяртацца да Міхеенка ў паўсядзённым жыцці.**

Раней «Ксенію Карпаўна» можна было купіць у краме - для рознічнага продажу прадукт выпускаўся ў пластмасавых шкляначках з вечкам. Са зменненнем на дзяржаўным узроўні патрабаванняў да стандартаў вытворчасці і ўмоў рэалізацыі харчовай прадукцыі цуд-маянэз, нажаль, з прылаўкаў знік - сёння ён прысутнічае выключна ў складзе страў рэстараннага меню.

Яшчэ адзін мясцовы гастранамічны хіт - свіная каўбаса пад назвай «Мінская». Рыхтуюць яе па традыцыйнай рэцэптуры, але з асаблівасцю: начынне вытворца паўфабрыкатаў, майстар-повар Алена Сівец прапанавала рабіць не з молатага матэрыялу, а з нарэзкі. Для гэтага трэба як след папрацаваць рукамі, але справа таго варта: пакупнік у захапленні.

Расейцы, якія прыязджаюць у адпачынак на Прыдзвінне, бяруць «Мінскай», бывае, па 20 кілаграмаў за раз: загадзя сазваньваюцца з прадстаўнікамі райпо, пакідаюць заказ пад канкрэтную дату. Заўважу: не ідуць у яркамаляўнічы гіпермаркет, а сазваньваюцца з райпо.

**СБ**

ЗДАРЭННІ

# АСЦЯРОЖНА, ЛАСІ НА ДАРОЗЕ!

**10-га чэрвеня вечарам у 22.45 каля вёскі Ржаўка Бешанковіцкага раёна адбылося ДТЗ з удзелам ласяя.**

32-гадовы кіроўца Toyota, ураджэнец Бешанковічаў, ехаў па трасе М3 Мінск - Віцебск і не паспеў затармазіць перад выбегшым на дарогу ласём.

Жывёла загінула, кіроўца атрымаў цялесныя пашкоджанні і быў шпіталізаваны.

Вядома, што ў канцы вясны - пачатку лета ласіхі, што ацяліліся, адганяюць ад сябе ўжо падросшых ласянят, і маладыя ласі ў пошуках прыдатнага месца для жыцця перасякаюць дарогі. Аўтамабіляў пры гэтым яны не баяцца, і раптоўна з'яўляючыся на праезнай частцы. Найбольш частыя выхады ласёў у перыяд вячэрніх прыцемкаў і першых начных гадзін.

Тры чалавекі пацярпелі ў аварыях з удзелам ласёў, якія адбыліся ў мінулыя выходныя ў Віцебскай вобласці. Пра гэта паведамілі ў прэс-службе Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь.

**TUT.BY**

# КАЛЯ ВЁСКІ ПАЖАРЫШЧА ЗГАРЭЎ КАМБАЙН

**20-га чэрвеня ў 14-00 паступіла паведамленне аб загаранні кормаўборачнага камбайна на полі каля вёскі Пажарышча Бешанковіцкага раёна.**

У выніку пажару ў кормаўборачнага камбайна КВК-800 "Палессе ФФ-85» 2011 г.в., які належыць ЗАТ «АСБ-Агра Наватар», пашкоджаны маторны адсек, кабіна і колы.

Прычына пажару высвятляецца.

**М.Васільеў**
**па матэрыялах сайта МНС**

З СУДОВАЙ ЗАЛІ

# ВЫПАДАК КАЛЯ ВОЗЕРА ДОЎГАЕ

**Падзеі, пра якія пойдзе размова, адбываліся ў канцы студзеня 2018 года.**

Жыхар Віцебска, які прыехаў у Бешанковіцкі раён да маці пагасціць і знаходзіўся на рыбалцы на возеры ў в. Доўгае Бешанковіцкага раёна, прыкмеціў казулю, якая ішла па лёдзе , накульгваючы на пярэднюю нагу. На наступны дзень ён вырашыў, што павінен знайсці казулю і дабіць яе, а мяса забраць сабе.

Адправіўшыся на пошукі траўмiраванай казулі, ён прыхапіў з сабой паляўнічы нож і сабаку. Пры гэтым, будучы паляўнічым, ён пэўна ведаў, што паляванне на казулю ў студзені 2018 года ўжо забаронена.

Раненую казулю ён знайшоў у кустах каля возера, дагнаў, зацкаваў сабакам і прырэзаў нажом. Пасля гэтага разабраў тушу жывёлы і забраў яе з сабой.

Аднак яго дзеянні не маглі не прыцягнуць увагу мясцовых жыхароў (бо ўсё гэта адбывалася сярод белага дня). Апошнія своечасова паведамілі ў Бешанковіцкі РАУС аб магчымым злачынстве.

Пошукі браканьера былі арганізаваны неадкладна з удзелам супрацоўнікаў Віцебскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

Ужо падыходзячы да свайго аўтамабіля, мужчына заўважыў супрацоўнікаў праваахоўных органаў, кінуў заплечнік з тушай казулі і кінуўся бегчы, бо ён ведаў аб сумах штрафаў за незаконнае паляванне. Страх за зробленае падганяў мужчыну, таму ён ўцякаў ад супрацоўнікаў каля 3-х гадзін, але ў выніку быў затрыманы.

Зараз у дачыненні да падазраванага мужчыны распачата крымінальная справа за незаконнае паляванне. Сума шкоды, якая была нанесена за здабытую казулю, склала 120 базавых велічынь, а гэта амаль 3 тысячы рублёў, што з'яўляецца буйным памерам. Вынікам палявання можа быць пакаранне ў выглядзе 3-х гадоў пазбаўлення волі.

Следчыя звяртаюць увагу грамадзян, што для пазбягання сумных наступстваў незаконнага палявання неабходна выконваць заканадаўства Рэспублікі Беларусь і асцярожна ставіцца да прыродных рэсурсаў.

**Дзмітрый Гулідаў**
**следчы РАСК**

СЕРЫЯЛ "КАРУПЦЫЯ"

# ЧАМУ КВІТНЕЕ КАРУПЦЫЯ?

**Апошнім часам у бясконцы серыял па барацьбе Аляксандра Лукашэнкі з карупцыяй дадаюцца ўсё новыя серыі**




Яшчэ 15 лютага кіраўнік дзяржавы вызваліў ад пасадаў міністра лясной гаспадаркі Міхаіла Амельяновіча і міністра спорту і турызму Аляксандра Шамко з вельмі знамянальнай фармулёўкай: за «непрыняцце дзейсных захадаў у барацьбе з карупцыяй і эканамічнымі правапарушэннямі ў падведамасных арганізацыях». Паведамлялася, што КДБ затрымаў 12 работнікаў міністэрства лясной гаспадаркі і двух прадпрымальнікаў, якія пад выглядам таннай драўніны прадавалі за мяжу прадукцыю высокай якасці. Таксама затрыманы за хабар дырэктар сталічнага Палаца спорту Сяргей Прановіч.

Зусім нядаўна быў арыштаваны памочнік кіраўніка дзяржавы Сяргей Раўнейка, які спрабаваў атрымаць хабар у $200 тысяч. Днямі Лукашэнка праанансаваў новыя гучныя карупцыйныя справы. Старшыня КДБ Валерый Вакульчык пацвердзіў, што затрымана некалькі службовых асоб высокага ўзроўню, адзін з якіх браў хабар у $140 тысяч. У пачатку траўня быў адпраўлены ў адстаўку міністр энергетыкі Уладзімір Патупчык з фармулёўкай «за садзейнічанне незаконнаму сямейнаму бізнесу».

Паводле паведамлення прэс-службы Генпракуратуры, колькасць выяўленых карупцыйных злачынстваў у 2018 годзе павялічылася: «За 3 месяцы гэтага года ў Беларусі адбыліся амаль 700 карупцыйных злачынстваў. Гэта ў два разы больш, чым за такі ж перыяд 2017 года». Колькасць хабараў узрасла больш чым удвая. Амаль раз на тыдзень прыходзяць паведамленні пра чарговыя затрыманні, крымінальныя справы. Карупцыя закранула ўсе сферы грамадскага жыцця. Ствараецца ўражанне, што ў высокіх чыноўнікаў сарвала нейкія тармазы, і яны паводзяць сябе як «у апошні дзень Пампеі».

Мы ўсе памятаем, як Лукашэнка зрабіў ідэю барацьбы з карупцыяй сцягам сваёй прэзідэнцкай кампаніі 1994 года: ён абяцаў адсекчы гэтай гідры галаву, разграміць мафіёзныя кланы. Вобраз непрымірымага змагара з карупцыяй стаў візітоўкай беларускага правадыра. Ён шмат разоў пераконваў расійскіх журналістаў у тым, што ў нас, у адрозненне ад Расіі, няма такой маштабнай карупцыі, таму што, маўляў, сам не краду і чыноўнікам спуску не даю. Падчас паездкі ў Слуцк у лютым гэтага года Лукашэнка заявіў: «З першых прэзідэнцкіх выбараў я выразна народу сказаў, што карупцыі ў Беларусі быць не можа».

Але прыведзеныя вышэй факты сведчаць пра крах усёй палітыкі барацьбы з карупцыяй. Як вядома, хабарніцтва — сусветная праблема. Сродкі барацьбы з ёй у свеце вядомыя. Гэта змяншэнне ролі дзяржавы ў эканамічным, сацыяльных, грамадскім жыцці. Гэта кантроль за ўладай з боку грамадства. Гэта моцная апазіцыя, грамадзянская супольнасць, незалежныя СМІ, якія сочаць за кожным крокам чыноўнікаў. Гэта прававая дзяржава у выглядзе вяршэнства закону, незалежнага суду. Але нічога гэтага ў Беларусі няма.

Калі пасля 24 гадоў упартай і непрымірымай барацьбы з карупцыяй аказваецца, што яна, наадварот, квітнее і ўзмацняецца, гэта азначае толькі адно: сама беларуская мадэль прадукуе карупцыйныя працэсы. Бо сістэма, у якой дзяржава (то бок чыноўнікі) кантралююць усе сферы грамадскага жыцця, а ў эканоміцы цалкам дамінуе дзяржуласнасць, з'яўляецца ідэальнай для карупцыі. Гэта спараджае празмерную зарэгуляванасць усіх сацыяльных працэсаў. Не парушаючы правілы і інструкцыі, працаваць вельмі цяжка (калі наогул магчыма). У выніку многія віды дзейнасці, якія ў свеце з'яўляюцца легальнымі, законнымі, у Беларусі крыміналізаваныя...

Звернем увагу на маральны бок справы. Варта адзначыць, што ў савецкія часы беларуская наменклатура была самай сумленнай у СССР. У тым сэнсе, што яна шчыра верыла ў афіцыйную ідэалогію і спрабавала добрасумленна рэалізаваць яе пастулаты ў рэспубліцы. Тут не было такой карупцыі, як у Сярэдняй Азіі, Закаўказзі, Маскве ці Краснадары. Госці, якія прыязджалі сюды, са здзіўленнем казалі: у вас тут сапраўды існуе «савецкая ўлада». У пэўным сэнсе ў свядомасці партыйнай, дзяржаўнай, гаспадарчай наменклатуры прысутнічала місія служэння ці то народу, ці партыі, ці нейкай вялікай ідэі.

У пацвярджэнне гэтай версіі сведчыць той факт, што беларуская кіроўная эліта ў пачатку 1990-х гадоў так і не наважылася хутка правесці наменклатурную прыватызацыю, хоць і мела такую магчымасць, бо ў яе была ўся ўлада. Хоць Лукашэнка любіў разважаць пра існаваўшую тады ўсеагульную, усёабдымную карупцыю, мафію, але насамрэч асноўныя эканамічныя рэсурсы захаваліся ў руках дзяржавы…

Адна справа — служыць краіне, і зусім іншая — служыць гаспадару. Матывацыя крыху іншая. Сітуацыя нагадвае тую, якая была ў апошні час існавання савецкай сістэмы. Чыноўнікі разважалі, што калі сістэма, якой служылі, развальваецца, то варта падумаць пра сябе. І тады ў СССР былыя партыйныя функцыянеры хутка канвертавалі ўладу ў багацце.

У 1990-я гады, пакуль рынкавыя адносіны былі неразвітыя, у Беларусі, у адрозненне ад Расіі і Украіны, не было сваіх алігархаў, існавала большая сацыяльная роўнасць. А за апошнія 10–15 гадоў вырас клас беларускіх мільянераў, якія сваім ладам жыцця спакушаюць чыноўнікаў. І тыя прывілеі, якія ім дае Лукашэнка (катэджы ў Драздах і іншых наменклатурны пасёлках), чыноўнікаў ужо не задавальняюць. Яны пачынаюць думаць: а чым я горш за Чыжа ці Шакуціна?

Акрамя таго, паводзіны самога Лукашэнкі, які заклікае ўсіх да сціпласці і служэння дзяржаве, не з'яўляюцца добрым прыкладам. Задавальненне любога капрызу за дзяржаўны кошт, ад 12 рэзідэнцый да правядзення штогадовага міжнароднага хакейнага турніру імя самога сябе, разбэшчвае чыноўнікаў больш, чым што іншае.

Як вядома, рыба гніе з галавы. Бо як толькі гаворка заходзіць пра карупцыю, адразу ўзнікае пытанне: за які кошт вышэйшыя чыноўнікі пабудавалі дарагія катэджы ў Драздах, Вяснянцы і іншых падобных пасёлках?

Таму карупцыя і квітнее. Паводле маіх падлікаў, у Беларусі існуе цэлых 9 (дзевяць!) дзяржаўных органаў з правам аператыўна-вышуковай дзей-насці. І не спраўляюцца.

Акрамя таго, барацьба з карупцыяй, якую пастаянна ажыццяўляе Лукашэнка, з'яўляецца сродкам кантролю над наменклатурай, дзеля ўтрымання яе на кароткім ланцужку. Ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму сіла і аўтарытэт вярхоўнага кіраўніка ў чыноўніцкім асяродку ў значнай ступені вызначаецца узроўнем рэпрэсіўных акцый супраць кіруючай эліты… Таксама барацьба з карупцыяй з'яўляецца бяспройгрышнай тэмай для электарату ў любыя часы. Народ не любіць начальнікаў, і гатовы пляскаць у ладкі, калі іх б'юць. Схема «цар добры, баяры дрэнныя» працягвае працаваць.

Таму ў доўгай барацьбе Лукашэнкі з карупцыяй перамог мацнейшы. То бок, карупцыя.

**Валер Карбалевіч**
**"Новы час"**

УЛАДА І БАЦЬКІ

# ВЛАСТИ ПРИДУМАЛИ ЦИНИЧНЫЙ СПОСОБ ДАВИТЬ НА РОДИТЕЛЕЙ

**Это напоминает киднеппинг на государственном уровне. Или как иначе это назвать, если дети становятся заложниками, когда власть пытается разобраться с их родителями?**

Еще недавно подобное касалось лишь избранных — особо ярых оппонентов режима. Помните, как в 2010 году власти шантажировали экс-кандидата в президенты Андрея Санникова и журналистку Ирину Халип судьбой их сына? Теперь мы сталкиваемся с новым видом государственного киднеппинга — социальным.

Сегодня на слуху история многодетной матери из Гомеля Антонины Шайнюк. Впав в немилость директора школы, Светлана рискует потерять самое дорогое, что у нее есть — своих детей. Тяжелая жизненная ситуация вдовы, которая одна воспитывает четверых несовершеннолетних, послужила поводом для нападок. Женщине грозят отобрать детей, если она не погасит долги по квартплате и не переклеит обои в квартире.

— Когда у меня стоит вопрос, накормить детей или переклеить обои, я выбираю, конечно, детей, — оправдывается Антонина.

А следующая история и вовсе удивительна. Гомельчанке, у которой в семье все хорошо, пригрозили постановкой на учет только потому, что она не трудоустроена. Причем чиновники проявили невиданную расторопность, обратив внимание на мать, которая не работала на тот момент всего чуть более двух (!) недель.

«Несовершеннолетняя находится в неблагоприятных условиях, экстремальной жизненной ситуации», — приводят «Сильные новости» письмо, которое женщина получила из детского сада.

И это притом, что никаких иных нареканий по поводу воспитания ребенка нет, о чем также сказано в письме. Требование лишь гласит: «Вам необходимо срочно трудоустроиться».

Скажите, как это понимать? Новый метод борьбы с тунеядцами? Не смогли заставить платить через налоги, тогда решили зайти через детей?

Расчет понятен: какой же родитель захочет рисковать судьбой своего чада. Они будут готовы пахать на самых низкооплачиваемых должностях (других государство зачастую просто не в состоянии предложить) или же помалкивать в разговорах с начальниками всех рангов, только бы не лишиться своего ребенка.

И неважно, что благодаря такой «заботе» государства, некоторые будут вынуждены просто выживать, оставив неофициальные подработки, на которые еще недавно кормилась вся семья. Главное, что чиновники смогут отчитаться, что безработных в стране нет и все трудоустроены, как это требует высокое начальство.

Опять же отличный способ подрезать крылья тем, кто не дает спокойно спать властям, будоража их по разным поводам. Теперь самым активным возможно придется отвечать за то, что посуда не помыта, или предоставлять справки, с кем были дети, пока их родители защищали какую-нибудь культурную ценность от очередного чиновничьего беспредела?

Похоже, власти нащупали ту самую больную точку. И с особым цинизмом бьют по ней.

**Светлана Метелкина**
**"Салідарнасць"**

КАРУПЦЫЯ МІНЗДРАВА

# КГБ ПРОВЕЛ НЕБЫВАЛЫЕ МАССОВЫЕ ЗАДЕРЖАНИЯ КОРРУМПИРОВАННЫХ ЧИНОВНИКОВ

**Более десяти человек задержаны в рамках крупнейшей за всю историю независимой Беларуси антикоррупционной операции КГБ в отношении чиновников Минздрава. Под удар КГБ попал даже приближенный к президенту генерал, обеспечивавший «крышу».**

Как ранее сообщал «Ежедневник», немногим более недели назад КГБ задержал директора РУП «Центр экспертиз и испытаний в здравоохранении» (ЦЭИЗ) Минздрава Александра Столярова. Это стало началом крупномасштабной операции против коррумпированных чиновников, которые на протяжении последних десяти лет в буквальном смысле высасывали все соки из системы здравоохранения страны. Речь идет о поставках в белорусские медучреждения оборудования не только по завышенным ценам, но и по явно мошенническим схемам, без соответствующих сертификатов либо с сертификатами, выданными ЦЭИЗ в рамках коррупционного сговора.

Как удалось выяснить «Ежедневнику» всю прошедшую неделю в КГБ активно свозились для допросов люди, так или иначе причастные к проведению тендеров по закупке медицинского оборудования, его поставкам или сертификации. Кто-то после допроса возвращался домой, а кто-то отправлялся прямиком в Следственный изолятор КГБ. По предварительным данным, пока не подтвержденным официально, задержаны не менее 10 человек.

Сам Минздрав по этому поводу хранит гробовое молчание и не отвечает ни на какие вопросы. КГБ тоже не говорит, так как участь отдельных высокопоставленных фигур еще должен решить президент. Однако «Ежедневнику» удалось выяснить некоторые подробности скандала.

Больше всего человек было задержано в УП «Белмедтехника» Минздрава, через которое проходит основная масса всех тендеров по закупке медицинского оборудования. Однако и здесь ключевую роль опять же играла «Белмедтехника», которая тем или иными способом корректировала закупки. Но среди строителей пока никто не задержан, так как они сразу же согласились на сотрудничество со следствием, не желая расплачиваться за чужие грехи.

По данным «Ежедневника», пока КГБ задержал пять человек в УП «Белмедтехника»: двух руководителей и трех начальников отделов, причастных к закупке оборудования. В том числе задержан и человек, которого в «Белмедтехнике» называли «серым кардиналом». Он пересидел не менее пяти директоров и именно через него решались все вопросы по закупке оборудования.

Задержан также еще один человек в РУП «Центр экспертиз и испытаний в здравоохранении». Он занимает должность начальника управления.

В сфере разработки оказалась и еще одна «коммерческая» структура Минздрава, которая числится производителем медоборудования и которая активно участвовала в поставках в белорусские медучреждения. Фокус заключался в том, что многое оборудование на самом деле не производилось там, а покупалась у зарубежных, порой не сертифицированных производителей и выдавалось за белорусское. При этом цены на такое «белорусское» оборудование были серьезно завышены за счет того, что компании-конкуренты отсеивались при помощи нехитрой схемы еще до проведения тендера. Интересно, что эту структуру возглавляет родной брат одного очень влиятельного силовика генеральского чина, который пользуется, вернее пользовался, высоким доверием президента и не раз получал с его рук правительственные награды…

В поле зрения КГБ оказался и один из заместителей министра здравоохранения, который, по оперативным данным, стоит вверху всей «пищевой» цепочки.

Минздрав сейчас находится в шоке, как и весь рынок поставки медицинской техники в Беларусь. Эксперты называют как минимум еще десять человек как среди чиновников, так и среди бизнесменов, которые, судя по направлению оперативной разработки КГБ, должны быть в ближайшее время задержаны. Но это уже будут не ключевые фигуры, а лишь участники масштабных махинаций с поставками медицинского оборудования.

**Георгий Дань**
**ej.by**

БЕЛАРУСЬ – ЕС

# СМОЖЕТ ЛИ БЕЛАРУСЬ ПРОБИТЬСЯ НА РЫНОК ЕВРОСОЮЗА?

**На прошлой неделе президент Беларуси заявил, что главная задача для нашей страны в отношениях с Евросоюзом — обеспечить отечественным товарам беспрепятственный доступ на европейский рынок. Белорусские компании хотели бы увеличить там свое присутствие, но высокие входные пошлины в ЕС этому не способствуют.**

**Престижный экспорт**

«Продажи кваса в ЕС являются приоритетом нашей экспортной политики. Рынок стран ЕС — очень емкий, там многие производители хотят продавать продукцию. Поэтому приходится прилагать серьезные усилия, чтобы утвердиться на европейском рынке», — подчеркнул в беседе с корреспондентом БелаПАН генеральный директор «Лидского пива» Аудриус Микшис.

Чтобы попасть на рынок ЕС, белорусским компаниям в некоторых случаях приходится получать специальное разрешение.

«На рынок стран ЕС наша компания поставляет молочную продукцию с 2013 года. Такое право у нас появилось в 2012-м, когда получили бессрочную экспортную лицензию от комитета ЕС по пищевой цепи и здоровью животных», — отметила в беседе с корреспондентом БелаПАН заместитель генерального директора компании «Савушкин продукт» Елена Бабкина.

Чтобы получить лицензию, компания прошла сертификацию и подтвердила соответствие европейским требованиям всех технологических процессов производства продукции.

«Ежегодно еврокомиссары приезжают на предприятие, чтобы удостовериться в том, что наше производство полностью соответствует европейским стандартам», — говорит Елена Бабкина.

По ее словам, в ЕС белорусскую молочную продукцию ценят за натуральность и вкусовые качества.

Условия доступа на рынок ЕС у белорусских производителей разные — в зависимости от вида продаваемой продукции. Например, для белорусских производителей напитков нет никаких проблем с доступом в страны Евросоюза.

«Мы не видим больших проблем с доступом на европейский рынок. Мы продаем квас в Литве, Польше, Германии и других странах ЕС. Что касается нашей продукции, то никаких особых барьеров на пути в Евросоюз мы не встречаем», — констатирует Аудриус Микшис.

А вот при экспорте в ЕС молочной продукции белорусским производителям приходится сталкиваться с высокими пошлинами.

«На наш взгляд, объем реализации белорусской «молочки» в странах Евросоюза может быть существенно больше, чем сейчас. Из-за высоких входных таможенных пошлин, которые действуют в ЕС, на данный момент мы можем поставлять в Евросоюз не весь ассортимент выпускаемой продукции. Было бы здорово, если бы открытость европейского рынка для белорусских товаров со временем повышалась», — подчеркивает Елена Бабкина.

**Пересмотр монорыночной ориентации**

Белорусские производители все активнее проявляют интерес к увеличению поставок в ЕС, поскольку условия реализации продукции на традиционных рынках изменились.

«Большинство наших частных производственных компаний в 2000-е были ориентированы на российский и украинский рынки. В Москве, Питере и Киеве много мест, где продаются белорусские продукты, косметика и другие товары массового спроса. Успех белорусских производителей на соседних рынках был основан на формуле «почти европейское качество по почти китайской цене», — считает генеральный директор Бизнес-школы ИПМ Павел Данейко.

При этом ценовое преимущество белорусских экспортеров, по его словам, было обусловлено в том числе за счет высокой инфляции, которая наблюдалась в Беларуси последние десятилетия.

«В 1995-2005 годы среднегодовая инфляция составляла 40%. Это была своеобразная дотация экспортерам со стороны государства. В этих условиях многие белорусские экспортеры ориентировались на российский и украинский рынки, продажи там приносили наибольшую маржу», — вспоминает Павел Данейко.

В последние годы, констатирует он, в Беларуси восторжествовала жесткая денежно-кредитная политика, инфляция снизилась до однозначных величин, и былую дотацию от государства экспортеры перестали получать.

«Это заставило компании думать над пересмотром своих конкурентных преимуществ, оптимизировать затраты и выходить на новые рынки. Контактируя с собственниками частных компаний, мы понимаем, что сегодня география их экспорта стала шире — кто-то ушел в Евросоюз, а в одной из отраслей целая группа компаний вышла даже на рынок Ирана», — отмечает Павел Данейко.

По мнению экономистов, диверсификация экспорта важна не только для конкретных компаний, но и для страны в целом.

«Если посмотреть на страну в целом, то географическая концентрация белорусского экспорта остается высокой. Без учета нефтепродуктов на рынок ЕС приходится только около 20% белорусского экспорта, поэтому диверсификация экспортных поставок остается весьма актуальной задачей для Беларуси», — считает директор Исследовательского центра ИПМ Александр Чубрик.

При этом эксперты отмечают, что для решения этой задачи понадобятся в том числе и нестандартные шаги.

«Значительный объем импорта, который закупает ЕС, приходится на Китай. Именно китайская техника зачастую является главным конкурентом белорусского машиностроения на европейском рынке. Поэтому, возможно, нужно кооперироваться с китайскими компаниями, чтобы совместно продавать продукцию в ЕС» — считает заместитель председателя Белорусской научно-промышленной ассоциации Георгий Гриц.

По мнению экспертов, государство может повысить вероятность успешного выхода белорусских компаний на новые рынки. На государственном уровне, считает Дмитрий Дичковский, следует помогать компаниям становиться более конкурентоспособными, убирая протекционизм и субсидии.

«С экспортом все будет хорошо, если предприятия будут предметно этим заниматься, а именно формировать стратегию продвижения, привлекать талантливых менеджеров, создавать востребованный продукт. Основные барьеры на пути нашего экспорта в ЕС — в компетенциях и амбициях руководства наших компаний», — резюмировал Дмитрий Дичковский.

**Дмитрий Заяц**
**«БЕЛАПАН»**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.06.2018 у 16.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.